# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (690) 18 МАЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр





Прэзідыум VI з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Фота ЦАФ — Сянько

# VI З'ЕЗД БГКТ

З усіх канцоў Беласточчыны, а таксама з Варшавы і Гданьска, 11 мая з'ехаліся ў Беласток дэлегаты Беларускага таварыства на свой VI з'езд, каб падсумаваць трохгадовую дзейнасць нашай арганізацыі і каб накрэсліць далейшыя напрамкі працы.

Тут, на Варшаўскай 11, у памяшканні ГП з самай раніцы пачалі збірацца пасланцы паасобных аддзелаў, а таксама запрошаныя госці. Ва ўсім памяшканні ГП стала гаманліва ад сардэчных размоў старых знаёмых, сярод якіх некаторыя яшчэ ў 1956 годзе прымалі ўдзел у першым арганізацыйным з'ездзе Беларускага таварыства.

За гэтыя 13 год у БГКТ выраслі новыя дзеячы, якія разам з пачынальнікамі дзейнасці нашага таварыства сёння сабраліся на вялікую размову, каб сказаць, што ў нашай арганізацыі, яе практычнай дзейнасці здае экзамен, а што не дае добрых вынікаў.

Перапоўненая зала ГП, у якой сабралася каля 200 асоб, з апладысментамі прымае адкрыццё з'езда аб'яўленае старшынёю ГП Вінцуком Склубоўскім. Ён звяртаецца да прысутных з прапанова, каб выбраць на старшыню з'езда дырэктара беларускага ліцэя Мікалая Гайдука. Сябар Гайдук цёплымі словамі вітае ўсіх дэлегатаў і прадстаўнікоў партыйных і адміністрацыйных улад. А пасля ён жа выступае з прапановамі паклікання прэзідыума з'езда ў наступным складзе: Вітальд Мікульскі — сакратар ВК ПАРП, Уладзіслаў Скрыпчак — сакратар нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП, Веслаў Тамаля — інспектар Міністэрства ўнутраных спраў, Уладзіслаў Канстанчук — кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК партыі, Антон Рошка — кіраўнік праўлення ўнутраных спраў ПВРН, Юзэф Кая — кіраўнік аддзела культуры ПВРН, Збігнеў Дамброўскі — старшыня нацыянальнай камісіі пры ВК ПАРП, Уладзімір Юзвюк — сакратар ГП БГКТ, Мікалай Самоцік — намеснік старшыні ГП, Юры Валкавыцкі — галоўны рэдактар «Нівы», Міхась Хмялеўскі — член прэзідыума ГП, Лідзія Бялецкая — намеснік рэвізійнай камісіі БГКТ, Янка Зенюк — актывіст нашага таварыства, Кастусь Масальскі — старшыня аддзела БГКТ у Беластоку, Аляксандр Іванюк — старшыня Гайнаўскага аддзела, Анатоль Мартыновіч — старшыня Сямяціцкага аддзела, Ніна Мушынская — дзеяч культуры з Гарадка, Аляксандр Панасюк — арганізатар аматарскага руху ў вёсцы Пасынкі, Мікола Каролька старшыня Галоўнага праўлення Украінскага таварыства і Ольгерд Скрыпко — старшыня Галоўнага праўлення Літоўскага таварыства.

Пасля старшыня з'езда інфармуе прысутных, што на працягу мінулай кадэнцыі адышлі назаўсёды з нашых радоў такія дзеячы БГКТ, як Пятро Ластаўка, Янка Грэсь і Якуб Базылюк, памяць аб якіх ушанавалася прысутнымі хвілінай цішыні.

Каб справна праходзіў з'езд, па прапанове старшыні з'езда дэлегаты прымаюць правілы з'езда (рэгулямін). Потым на трыбуну да прэзідыума ўваходзяць вучэнцы бельскага і гайнаўскага беларускіх ліцэяў і складаюць удзельнікам з'езда свае пажаданні плённай працы на карысць развіцця беларускай асветы і культуры і ўручаюць кветкі.

Наступным пунктам працы з'езда было ўступнае слова да дыскусіі старшыні Галоўнага праўлення В. Склубоўскага, у якім ён між іншым гаворыць, як выконваліся пастановы V-га з'езда БГКТ (справаздачны даклад ГП быў раней разасланы ўсім дэлегатам і запрошаным гасцям). Далей Лідзія Бялецкая — намеснік старшыні Рэвізійнай камісіі складае справаздачу. Яна інфармуе, як выконвалася статутовая дзейнасць БГКТ, як выдаткаваўся бюджэт БГКТ прызнаны Таварыству ад нашых улад. У заканчэнні справаздачнага аналізу — яна прапануе ўдзяліць абсалюторыум уступаючаму Галоўнаму праўленню, якое прымаецца дэлегатамі галасаваннем.

Пасля Мікалай Гайдук чытае два лісты з пажаданнямі для ўдзельнікаў з'езда. Адзін ад міністра Унутраных спраў Казіміра Світалы, другі ад міністра асветы Генрыка Яблонскага.

Па прапанове старшыні з'езда дэлегаты паклікалі 4 камісіі: мандатную, выбарчую, скрутацыйную і прапаноў.

Наступным пунктам працы з'езда была дыскусія аб працы БГКТ і аб далейшых напрамках дзейнасці. У ёй удзел узяло 17 асоб, у тым ліку сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі і старшыні Галоўных праўленняў Украінскага і Літоўскага таварыстваў.

Удзельнікі з'езда пастанавілі выслаць ліст з пажаданнямі Уладзіславу Гамулку, у якім запэўніваюць першага сакратара ПАРП, што БГКТ рэалізавала і далей актыўна будзе рэалізаваць пастановы партыі.

Прыняццём пастаноў і выбарам новага ГП БГКТ закончыўся з'езд. Зараз жа адбылося пленарнае пасяджэнне новага Галоўнага праўлення, якое паклікала Прэзідыум і Рэвізійную камісію ГП.

Пасля адбылася мастацкая частка, з якой выступілі: эстрада ГП «Лявоніха», гарадоцкі хор, удзельнікі курсу акардэаністаў пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку, а таксама нашы літаратары Алесь Барскі, Віктар Швед і Юрка Геніюш.

Выступленні дэлегатаў і гасцей будуць друкавацца ў чарговых нумарах.

**М. Хмялеўскі**

# ЯК НАМ ЖЫВЕЦЦА?

Усе мы любім наракаць на жыццё сваё. О, даўней жылося! Нават дождж быў лепшы і сонца мацней грэла.

Зараз, калі рыхтуемся да выбараў, калі адзначаем першую маладосць сваёй народнай айчыны, нагода для параўнанняў здараецца шмат часцей. Варта тады ведаць, ці нашы нараканні знаходзяць матэрыяльную аснову. Тут аднак неабходна нам адклікацца да лікаў.

Лік першы і асноўны: **14 мільярдаў 745 мільёнаў 500 тысяч.** Столькі залатовак прайшло ў мінулым годзе праз рукі жыхароў Беластоцкага ваяводства, значыць праз нашы рукі. Ці ўяўляеце сабе такую суму? Бо я не вельмі. Ведаю толькі, што калі б знайшлася яна ў маіх руках, нават у пяцісотках — не змог бы яе паднесці. Прыйшлося б наймаць аўтамашыну або запрагаць пару добрых коней у драбінясты воз-балон, бо такая сума пяцісотак важыць амаль 1000 кг.

Такой колькасці грошай, на шчасце, ніхто за адзін раз не меў у руках. Яны па часцінках прыходзілі да кожнага з нас і выплывалі ад нас. Сума гэтая склалася з зарплаты рабочых у прадпрыемствах і спулдзельнях, з зарплаты працаўнікоў розных устаноў і кантор, з таго, што атрымалі сяляне за свае прадукты і вырабы, **значыць гэта сума даходаў усіх жыхароў Беласточчыны.** Калі б раздзяліць гэтую суму роўна на кожнага жыхара Беластоцкага ваяводства, прыпала б на старога і малога па нейкіх 13 тысяч злотых. Вядома аднак, што ў параўнанні да папярэдняга, гэта значыць 1967 года, даход жыхароў Беласточчыны павялічыўся на 8,4 працэнта. Абазначае гэта, што ў 1968 годзе ў нашых руках знайшлося на **адзін мільярд 229 мільёнаў 222 тысячы больш залатовак, як у папярэднім годзе.**

Грошы прыходзяць і выходзяць, гэта іх права. Каб жыць, неабходна купляць усё патрэбнае да жыцця, трэба выдаваць грошы. Вядома аднак, што чалавек галодны ці абарваны не думае спраўляць сабе аўтамашыну. А вось у мінулым годзе, як ніколі, наглядаўся ў нас вялікі попыт на аўтамашыны. Аж на 174 штукі больш (на 35,3 працэнта) купілі іх землякі нашы, як у папярэднім годзе. Другое пасля аўтамашын месца па прыросту попыту займаюць хатнія халадзільнікі (на звыш 30 працэнтаў больш), а затым па чарзе — тэлевізары (на звыш 22 працэнты больш), матароверы (на амаль 13 працэнтаў больш) і швейныя машыны (на звыш 10 працэнтаў больш). Адносна няшмнога (у межах 5—7 працэнтаў) прыбыло ў ваяводстве радыёпрыёмнікаў, ровераў, сціральных машын і новай мэблі. Можна меркаваць, што людзі ўжо насыціліся гэтымі таварамі і прызначаюць грошы на больш дарагія, так сказаць «панскія», тавары.

Значыць, толькі цешыцца нам, што сёння ўжо даступна нават мужыкам і рабочым тое, што некалі прызначалася толькі панам. Цешыцца тым больш, што вясковыя крамы, падпарадкаваныя ВЗГС-у, значна больш прадалі тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў, сціральных і швейных машын, матораў і мэблі, як гарадскія крамы. Ды памятаць трэба, што за так дарагімі пакупкамі, дзе за адзін раз выкладаецца па нейкіх 10 тысяч злотых, сяляне па старой прывычцы выбіраюцца найчасцей у горад і такім чынам папаўняюць касу (і статыстыку) гарадскога гандлю.

Гуляем! Аж надта. На працягу 1968 года выдалі мы на гарэлку амаль на 9 працэнтаў больш грошай, як у папярэднім годзе.

Добра, што асталося нам яшчэ грошай на мяса і каўбасу.

Попыт на гэтыя прадукты, што праўда, на многа не перавышаў узроўню з 1967 года. Праўдападобна паўстрымоўвала людзей вядомая змена цэн. Гаспадыні пачалі больш купляць рыбы, а асабліва селядцоў, продаж якіх у 1968 годзе павялічылася амаль у 25 працэнтаў. Аднак мяса і каўбасы мы сабе не шкадавалі. З'елі іх у 1968 годзе на 1,6 працэнта больш, чым у папярэднім годзе.

Працяг на стар. 4

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

 СВЕТ

## НОВЫЯ ПРАПАНОВЫ НФВ ПАЎДНЁВАГА В'ЕТНАМА

У мінулым тыдні, на парыжскай канферэнцыі, старшыня дэлегацыі Нацыянальнага Фронту Вызвалення Паўднёвага В'етнама прадставіў план развязкі паўднёваз'етнамскай праблемы, які складаецца з дзесяці пунктаў. Падкрэсліваецца, што тэты план, які падтрымоўвае і ДРВ, можа мець асноўнае значэнне для далейшага ходу парыжскай канферэнцыі.

План НФВ між іншым прадбачвае:

- вывядзенне ўсіх амерыканскіх войск і войск іншых саюзніцкіх краін, якія з'яўляюцца членамі амерыканскага лагера, з Паўднёвага В'етнама;
- пераказанне справы в'етнамскіх узброеных сіл, якія знаходзяцца на тэрыторыі Паўднёвага В'етнама, да разгледжання самім в'етнамскім бакам;
- правядзенне ў Паўднёвым В'етнаме ўсеагульных свабодных выбараў да канстытуцыйнага сходу;
- забарону падыймання спроб накінуць паасобным бакам уласнага палітычнага ладу ў часе між устанаўленнем міру а правядзеннем усеагульных выбараў; утварэнне на гэты час тымчасовага кааліцыйнага ўрада;
- вяртанне да адзінства В'етнама паступова і мірным шляхам, на аснове дыскусіі і паразумленняў між абедзвюма зонамі — без умешвання іншых краін.

## ПАСТАНОВА ФРГ

Парламентарныя фракцыі заходнегерманскіх партый ЦДУ/ЦСУ і СПД на асобных пасяджэннях прынялі згодную пастанову, што ФРГ не прыступіць да канвенцыі ААН на тэму неабмежаванага праследвання і пакарання гітлераўскіх і ваенных злачынстваў.

Прадстаўнікі абедзвюх фракцый амаль у аднолькавых заявах сцвердзілі, што ўспомненая канвенцыя не пакрываецца «з асноўнымі прынцыпамі федэратыўнага правадаўства». Нельга яе таксама згарманізаваць з заходнегерманскай канстытуцыяй.

✲

Прынятая галоўнымі бонскімі партыямі пастанова байкоту канвенцыі ААН аб праследванні гітлераўскіх ваенных злачынцаў даказвае, што бонскія палітыкі нічога не робяць з таго факту, што праект гэтай канвенцыі, унесены з ініцыятывы Польшчы на пасяджэнне Генеральнай Асамблеі ААН, быў прыняты ў лістападзе 1968 г. вялікаю большасцю галасоў і ўжо хутка станецца інтэгральнай часткай міжнароднага закона.

## КОШТЫ АБМ

Кошты пабудовы агранічанай супрацьракетнай абароны (АБМ) запрапанаванай Ніксанам будуць у два разы вышэйшыя, чым гэта раней прадбачвалася.

Рэалізацыя паводле Пентагона мела каштаваць ад 6 да 7 мільярдаў долараў, а зараз выспецыялізаваная арганізацыя, якая робіць каштарысы для арміі, аблічыла, што кошт супрацьракетнай сістэмы асягне 13 мільярдаў долараў. А. К.

 БССР

## ПЕРШАМАЯ

У традыцыйна святочным настроі адбылося святкаванне Першамая ў Мінску. З прывітальнай прамовай да ўдзельнікаў дэманстрацыі выступіў першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі П. Машэраў.

Навязваючы да першамайскай прамовы Л. Брэжнева першы сакратар ЦК КП Беларусі сказаў:

«Словы Леаніда Ільіча Брэжнева, сказаныя сёння аб тым, каб яшчэ больш актыўна ўкараняць у народную гаспадарку навейшыя дасягненні навукі і тэхнікі, яшчэ шырэй выкарыстоўваць прыродныя багацці ў інтарэсах народа, зрабіць новы буйны крок у развіцці сацыялістычных грамадскіх адносін, працоўная Беларусь успрымае як заклік да новых творчых дзярзанняў і гатова, як заўсёды, быць у першых радах змагароў за ажыццяўленне дырэктыў партыі».

## МАНЮШКІ

У гарадах і вёсках Беларусі адбыўся фестываль музыкі, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Станіслава Манюшкі. Урачыстае адкрыццё яго адбылося 4 мая на месцы былога фальварка Убель на Міншчыне, дзе нарадзіўся і правёў дзяцінства вялікі кампазітар. Ва ўрачыстасці ўдзельнічала дэлегацыя Варшаўскага ваяводства і дэлегацыя Саюза польскіх кампазітараў.

У фестывалі прымалі ўдзел найлепшыя артысты беларускіх і польскіх сцэн, слаўная піяністка Галіна Чэрны-Стэфаньская, Дзяржаўны ансамбль народнай песні і танца «Шлёнск».

У беларускіх газетах змешчана шмат публікацый аб Станіславе Манюшку і яго сувязях з Беларуссю, яе культурай, музыкай.

## 950-ГОДДЗЕ

Брэсту 950 год. Гэты горад заснаваны ў 1019 годзе.

Горад рыхтуецца да свайго свята: прыгожа дэкараваны вуліцы і скверы, мясцовая творчая інтэлігенцыя рыхтуе юбілейныя выданні, выстаўкі, значкі і т.п.

Зараз Брэст належыць да ліку найважнейшых гарадоў Беларусі, характарызуецца актыўным культурастваральным асяроддзем, пачуццём рэгіянальнага патрыятызму.

## МУЗЕЙ

У Мінску адкрыта Музей Беларускага Тэатра оперы і балету, што з'яўляецца значнай падзеяй у беларускім культурным жыцці. Музей дазваляе наглядна прасачыць гісторыю беларускай нацыянальнай оперы і балету.

## ПЕРШЫ

Сорак гадоў таму назад на экраны выйшаў першы беларускі фільм, прысвечаны сучаснасці, «Песня вясны» па аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця». Яго прэм'ера адбылася ў красавіку 1929 года.

## «ЗВЯЗДА»

1 мая выйшаў 15-цітысячны нумар дзянніцы «Звязда». (С. Я.)

 ПОЛЬШЧА

## У ГДЫНІ

З аказіі Дня перамогі над гітлераўскім фашызмам ва ўсёй краіне адбыліся ўрачыстасці. Пад помнікамі польскіх і савецкіх салдат зложана кветкі і вянкі. Вялікі мітынг адбыўся ў Гдыні, дзе з прамоваю выступіў сакратар ЦК партыі — Зэнан Клішка. Падкрэсліў ён геройства савецкіх салдат, якія мелі рашаючы ўдзел у перамозе над фашызмам, а таксама ўдзел у гэтай барацьбе польскіх салдат. Наступна прамоўца ахарактарызаваў глыбокія пераўтварэнні, якія адбыліся ў нашай краіне і іх значэнне для абароннасці і бяспекі айчыны.

«У разбудове нашай гаспадаркі, — заявіў прамоўца, — на працягу чвэрцьстагоддзя асягнулі мы тое, што капіталістычныя краіны Еўропы будавалі амаль два стагоддзі. У многіх важных галінах грамадскага развіцця мы іх даўно ўжо перагналі. А развіццё навукова-тэхнічнай рэвалюцыі стварае ўжо новыя праблемы, якія мусім развязваць, калі хочам утрымацца ў авангардзе прагрэсу».

Да такіх праблем тав. Зэнан Клішка залічыў між іншым неабходнасць пабольшвання колькасці навукова-тэхнічнай кадры.

## У ПОЗНАНІ

7 мая ў Познані адбылася ўрачыстасць 50-годдзя ўніверсітэта імя Адама Міцкевіча. Прыняў у ёй удзел член Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі, старшыня Рады Дзяржавы — Мар'ян Спыхальскі. Выступаючы з прамоваю падкрэсліў ён аграмадныя дасягненні ў развіцці польскай навукі за часы народнай улады: у 6 разоў узрасла колькасць студэнтаў, у 8 разоў — колькасць навуковых працаўнікоў, у блізка 2 з паловаю разы — колькасць вышэйшых навучальных устаноў. Гаворачы аб пагрозе з боку нямецкага мілітарызму і рэваншызму прамоўца заявіў:

«Не кіруе намі нянавісць, ці нейкая абсесія, але клопаты аб мірнае жыццё польскага народа і пачуццё адказнасці за бяспеку еўрапейскага кантынента, які за жыцця аднаго пакалення два разы патанаў у крыві з прычыны германскага імперыялізму».

## ПЛЕНУМ

У Варшаве адбылося XI пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў, прысвечанае ідэйна-выхаваўчай дзейнасці прафсаюзаў у асяроддзі працы. Падставай дыскусіі быў разасланы раней членам Цэнтральнай рады даклад яе Прэзідыума. У дакладзе сцвярджаецца, што ўвайшлі мы ў этап сацыялістычнага будаўніцтва краіны, які патрабуе новага погляду на метады і змест ідэйна-выхаваўчай дзейнасці прафсаюзаў. Пленум сфармуляваў асноўныя пастулаты прафсаюзаў у галіне пашырэння актыўнасці і заангажавання рабочых у справы свайго прадпрыемства і іх удзелу ў кіраванні прадпрыемствам. (п)

 ВАЯВОДСТВА

## СУСТРЭЧЫ З КАНДЫДАТАМІ

Штодзень паступаюць у рэдакцыю паведамленні аб сустрэчах кандыдатаў Фронту адзінства народа ў пасады і радныя ўсіх узроўняў з насельніцтвам Беластоцкага ваяводства.

У суботу, 10 мая г.г. на сустрэчу з рабочымі фастаўскага камбіната прыехаў старшыня Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю, тав. Зэнан Новак. Разам з ім у сустрэчы прыняў удзел член ЦК ПАРП і I сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку тав. А. Лашэвіч.

У Бельску з вучнямі і настаўнікамі эканамічнага тэхнікума сустрэлася член Рады Дзяржавы Яўгенія Красоўская. Прысутныя былі кандыдаты ў радныя: Л. Мяльвінскі, Б. Жукоўскі і С. Нікіцюк.

У Белавежы на выбарчай сустрэчы пабывала рэдактар Крыстына Маршалэк-Млынчык і кандыдаты ў радныя: Т. Макшыцкі і З. Пуцэк.

У Аўгустоўскім павеце, у мясцовасці Нэта сустрэўся з выбаршчыкамі старшыня Ваяводскага камітэта ЗСЛь у Беластоку Ян Рызнар.

Сустрэчы адбываліся і ў іншых мясцовасцях. Паінфармуем пра іх наступным разам.

## 50-ТЫСЯЧНЫ

Арганізацыя Саюза вясковай моладзі на Беласточчыне 11 мая г.г. урачыста прымала ў свае рады 50-тысячнага члена. Членскі білет № 50 000 атрымаў малады селянін з Браньска ў Бельскім павеце Лешэк Шэпеткоўскі. З гэтай нагоды ў Браньску адбыўся шматлюдны маладзёжны мітынг, у якім між іншымі прынялі ўдзел: Зэнан Новак, А. Лашэвіч і Ян Рызнар. Старшыня Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку Казімір Пятроўскі ў сваім выступленні адзначыў, што пад патранатам ЗМВ дзейнічае ў ваяводстве 370 мастацкіх аматарскіх калектываў, 1400 бібліятэчных пунктаў і 200 школ здароўя.

## СУСТРЭЧА АСАДНІКАЎ

З нагоды Дня перамогі ў горадзе Голдап сустрэліся ветэраны II сусветнай вайны, якія пасяліліся ў Галдапскім і Алецкім паветах. У гэтай сустрэчы прыняло ўдзел 600 асаднікаў. Іх сустрэча пераўтварылася ў антываенную маніфестацыю, у якой прынялі ўдзел: міністр замежнага гандлю Януш Буракевіч і сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Станіслаў Кудла. Многія ветэраны атрымалі высокія дзяржаўныя адзнакі.

## ПАСАДКА ЛЕСУ

Жыхары вёсак: Кляшчэлі, Сакі, Залешаны, Сухавольцы, Паграбы, Дашы, Жукі, Грузкая, Пятроўшчына, Дабрывады — разам звыш 800 чалавек — у нядзелю 11 мая г.г. прынялі ўдзел у пасадцы лесу. Грамадскім чынам засаджана за адзін дзень 6,5 га няўгоддзяў. Такія «зялёныя нядзелі» ў наваколлі Кляшчэль праводзяцца ўжо традыцыйна. (вр)




NIEDZIELA, 18. V.

9.10 Program dnia; 9.15 TV Kurs Rolniczy: „Uprawa lucerny"; 9.50 „Przypominamy, radzimy"; 10.30 „Pozdrowienia od przyjaciół" (Budapeszt); 11.30 „Telewizja na życzenie" — koncert muzyki poważnej (Budapeszt); 12.10 Dziennik; 12.20 „Przemiany"; 12.50 PKF; 13.00 „Sezam muzyczny"; 13.55 „Kiermasz"; 14.25 „My-69" — teleturniej (II ćwierćfinał); 15.25 „Czemu służy literatura" — felieton literacki; 15.55 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia VII etapu na trasie Poznań — Zielona Góra (121 km); 16.45 „Klub Sześciu Kontynentów"; 17.25 Teatr TV: „Kochankowie z Nohant"; 18.25 „Mała historia polskiego filmu" („W starym kinie"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Poszukiwacze złota" — film fab. USA (western); 21.25 Filmowy program rozrywkowy: „Wieczór z Anną Moffo; 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju i Wiadomości sportowe.

PONIEDZIAŁEK, 19. V.

15.25 Program dnia; 15.30 i 22.05 Politechnika TV, kurs przygotowawczy; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 17.55 „Pstrągi" — film węg.; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV na świecie. A. Czechow: „Trzy opowiadania"; 20.55 „10 minut recenzji"; 21.05 „Profile kultury"; 21.30 Dziennik TV i Wiadomosci Sportowe.

WTOREK, 20. V.

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski. Ernest Bryll „Rzecz Listopadowa"; 9.55 „Mały letni blues" — film fab. CSRS; 10.35 Przerwa; 10.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski. „Związek pająka" („O miejsce wśród ludzi") („Koleżeństwo); 11.25 Przerwa; 12.45 i 14.20 Przysposobienie Rolnicze: „Klasa a żyzność gleby"; 13.20 Przerwa; 14.15 Program dnia; 15.00 i 23.10 Politechnika TV I roku; 16.15 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia IX etapu na trasie Zielona Góra — Świebodzin i zakończenie X etapu na trasie Świebodzin — Eisenhuttenstadt; 17.00 Dziennik; 17.10 „Mały letni blues" — film fab. CSRS; 18.20 „Sylwetki kompozytora"; 18.45 „Fabryka pociągów"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych; 22.00 Magazyn Medyczny; 22.30 Dziennik; 22.45 Kronika Wyścigu Pokoju.

ŚRODA, 21. V.

8.20 Film fabularny; 9.55 Dla szkół (kl. VII) (Historia) „O ziemię, język i kulturę polską"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Ruch drgający"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Współpraca międzynarodowa"; 12.25 Przerwa; 14.55 Program dnia; 15.00 Matematyka w szkole: „Synteza materiału nauczania" — „Grupy przekształceń"; 16.00 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XI etapu Guben—Cottbus; 17.05 Dziennik; 17.15 Dla młodych widzów: „Latający Holender w Londynie"; 17.55 TV Kurier Warszawski; 18.10 „Nowiny"; 18.40 „Giełda Piosenki"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Słuchamy i patrzymy" — „Patriotyczny nurt w muzyce polskiej"; 21.05 „Światowid"; 21.40 PKF; 21.50 Nowela filmowa; 22.20 Dziennik; 22.45 Kronika Wyścigu Pokoju; 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy.

CZWARTEK, 22. V.

15.00 Program dnia; 15.05 i 23.05 Politechnika TV I roku; 16.15 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XII etapu na trasie Cottbus—Drezno; 17.00 Dziennik; 17.10 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 18.00 TV Kurier Lubelski; 18.15 „Przegląd muzyczny"; 18.45 „Za kierownicą"; 19.20 Dziennik; 20.05 „Refleksje"; 20.40 Teatr Sensacji: F. Hochwalder: „Zbieg"; 21.40 Film rozrywkowy; 22.15 Dziennik; 22.30 Kronika Wyścigu Pokoju.

PIĄTEK, 23. V.

10.00 „Statek z dynamitem" — film fab. rum.; 11.40 Przerwa; 14.15 Program dnia; 14.20 Dla szkół (kl. I lic.) Przysposobienie obronne: „Pierwsza pomoc w nagłych wypadkach" II; 15.40 i 23.05 Politechnika TV I roku; 16.00 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z XIII etapu na trasie Drezno—Gera; 17.00 Dziennik; 17.10 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.45 TV Kurier Mazowiecki; 18.00 „Don Kichot" — film seryjny; 18.25 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia" cz. V: „Jaka praca, taka płaca"; 18.55 „Definicje" — teleturniej; 19.20 „Dobranoc" — „Legendy Krakowskie"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Nad Odrą i Bałtykiem"; 20.40 Teatr TV. St. Wyspiański: „Zygmunt August"; 21.50 Film rozrywkowy; 22.15 Dziennik; 22.30 Kronika Wyścigu Pokoju.

SOBOTA, 24. V.

8.55 „Bitwa o Algier" — film dok. włosko-algierski; 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Odpowiadamy na listy"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia: „Nad Bałtykiem"; 12.25 Przerwa; 14.00 Program dnia; 14.05 TV Kurs Rolniczy: „Działanie środków chemicznych w ochronie roślin"; 14.40 „Lekcja WF w terenie" — „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 14.50 Program Tygodnia; 15.15 Wyścig Pokoju. XVI etap — kryterium uliczne w Gera; 16.30 Dziennik; 16.40 Teatr Młodego Widza. J. Domagalik: „Anka"; 17.25 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników"; 17.35 „Tele-Echo"; 17.40 „Encyklopedia morza" — film; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.10 „Muzyka i moda"; 21.20 Dziennik i wiadomości sportowe; 21.40 „Bitwa o Algier" — film dok. włosko-algierski; 23.40 Kronika Wyścigu Pokoju.




PIĄTEK, 16 MAJA

8.00 Dziennik; 8.15 „Cuda przyrody"; 8.30 Koncert zespołów amatorskich; 9.30 „Postęp"; 10.00 Spektakl TV; 11.00 „Wyścig pokoju"; 14.40 Program dnia; 14.45 Dziennik; 15.00 „Godzina nauki"; 16.00 „Człowiek ziemi mojej"; 16.30 „Panorama nowin"; 16.40 Przegląd filmów TV; 17.15 „Sztafeta nowin"; 18.00 Program z Ulianowska; 20.00 „Na muzycznej fali"; 20.10 Wialugin: „Wiatr znad Wołgi"; 20.50 „Przy płomyku".

SOBOTA, 17 maja

8.00 Program rozrywkowy; 8.30 „Ulica, pieszy, transport". 8.45 „Zdrowie"; 9.35 Przegląd międzynarodowy; 9.55 „Szkatułka muzyczna"; 10.05 „Wydawnictwa jubileuszowe"; 10.30 Przegląd filmów TV; 11.15 „Kontrolerzy"; 12.00 Wieczór twórczy Leningradzkiego Teatru Młodzieżowego; 13.00 „Kurier wiejski"; 13.30 TV barwna; 15.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (kobiety); 18.15 „Świat socjalizmu"; 18.25 „Klub Wesołych". Finał; 20.45 Dziennik; 21.00 Mistrzostwa ZSRR w podnoszeniu ciężarów.

NIEDZIELA, 18 MAJA

8.00 „Kiosk muzyczny"; 8.30 „Skarby Leningradu"; 9.00 „Droga do nauki"; 10.00 „Spotkanie z redakcją „Żołnierz radziecki"; 10.30 „Gwiazda"; 11.30 Spektakl dla dzieci; 12.35 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1967"; 13.15 TV barwna; 15.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (kobiety); 17.30 „Hasło". Film fabularny; 18.45 „Siedem dni"; 19.30 Przegląd filmów TV; 20.15 Mecz piłki wodnej. Włochy — ZSRR; 21.15 Dziennik; 21.30 „Tydzień sportowy".

 

# Песняй, словам і танцам

Як мы ўжо пісалі, 27 красавіка ў Беластоцкім тэатры імя Аляксандра Вянгеркі адбыўся вялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей, пражываючых на Беласточчыне, прысвечаны 25-ай гадавіне станаўлення народнай улады ў Польшчы. Канцэрт быў адным з асноўных культурных мерапрыемстваў юбілейнага года ў Беластоцкім ваяводстве. Песняй, словам і танцам віталі набліжэнне нашага супольнага свята беларусы, украінцы, літоўцы і рускія. Сёння змяшчаем фотарэпартаж з гэтай знамянальнай падзеі.

Фота: Цаф — Сянько



Хор БГКТ з Бельска.



Дуэт БГКТ з Мілейчыц, Сямяціцкага павета — Вера Ваўранюк і Тэкля Вашчук.



Пастушок (Тамара Кандрусік) са слоўна-вакальнай пастаноўкі па купалаўскай «Адвечнай песні» Рэгіянальнага калектыву аддзела БГКТ у Гарадку.



Вакальны калектыў УГКТ «Мазурскія зязюлі» з вёскі Лісы, Галдапскага павета.




Хор Дома літоўскай культуры ў Пуньску, Сейненскага павета.




У тэатры дзейнічала таксама выстаўка народных вырабаў нацыянальных меншасцей Беласточчыны. На здымку беларуская экспазіцыя.



Дзіцячы танцавальны калектыў РКТ з Беластока.



Беластачане цёпла ўзнагароджвалі выступленні ўсіх калектываў.



 

 

## ЛЮДЗІ БГКТ

# МІКАЛАЙ САМОЦІК



Грамадскі аванс беларусаў у Народнай Польшчы дасканала можна паказаць на жыццёвым шляху Мікалая Самоціка. Сын селяніна з Ляшукоў у Гайнаўскім павеце ў 1952 годзе заканчвае Педагагічны ліцэй у Бельску, а пасля 7 год працуе настаўнікам, працуе і далей вучыцца на завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры. Мікалаю Самоціку за добрую настаўніцкую працу, за поспехі ў навучанні партыйныя ўлады супольна з асветнымі ўладамі даручаюць асветныя справы ўсяго Гайнаўскага павета. На пасадзе інспектара асветы прэзідыума ПРН Самоцік працуе 6 гадоў. Выконвае шэраг грамадскіх функцый і ва ўсіх іх адчуваецца партыйны падыход да справы, адчуваецца разважнасць і тактоўнасць. А ўжо гэтыя якасці чалавеку дапамагаюць здабываць пашану і аўтарытэт. Мікалай Самоцік авансуе далей. Ад 1959 года партыйныя ўлады паклікаюць яго на сакратара Павятовага камітэта партыі. Як адзін з рулявых партыі павета, добра ён служыць развіццю Гайнаўшчыны. Дзейнасць яго праяўляецца і ў Павятовай радзе нарадовай, якой ён з'яўляецца радным ад 1954 года. Цяпер яго кандыдатура зноў запрапанавана на раднага Павятовай рады нарадовай. Ён і далей служыць будзе сваёй парадай, сваім вопытам, сваёю ўсёю асобаю ў гэтым дзяржаўным органе.

З задавальненнем падкрэсліваем, што гэты чалавек ужо чацвёртую кадэнцыю быў членам прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ і выбраны ў члены прэзідыум ГП на VI з'ездзе беларускай арганізацыі. (мх)

# 10 ГОД і 1 МІЛЬЁН

У палове месяца мая мінула 10 год, як на Беласточчыне пачаў дзейнасць Беластоцкі аддзел Агульнакраёвай спулдзельні турыстычнай «Грамада».

У палове мая з паслуг Беластоцкай «Грамады» скарыстаў мільённы кліент — жыхар Беласточчыны. Статыстычна беручы, нямнога не хапае, каб кожны жыхар Беласточчыны (каля 1200 тыс.) хоць раз скарыстаў з паслуг «Грамады», значыць паехаў на экскурсію, пабываў у тэатры, оперы, музеі і г.д.

Формы паслуг «Грамады» вельмі розныя. Для ілюстрацыі падамо толькі прыклады цыклаў, якія «Грамада» вяла: «З-пад хаты» — мерапрыемства, якое ў далейшым пераўтварылася ў конкурс «Вёска бліжэй тэатра», арганізаваны супольна з ЗМВ і культурнымі ўстановамі ваяводства, «Шляхам Тысячагоддзя па Беласточчыне», «Шляхам пабыўкі Леніна ў Польшчы», «Шляхам 20-цігоддзя» і апошняя вялікая культурная акцыя «Сядайце, едзем».

Зараз «Грамада» свае мерапрыемствы падпарадкоўвае 25-годдзю ПНР. Хоча людзям паказаць дасягненні краіны і ваяводства.

Вяртаючыся да лікаў, глянем, хто прыймае ўдзел у мерапрыемствах «Грамады». Адну трэцюю складае школьная моладзь, рэшта дарослыя. Амаль палова аднаго мільёна былі людзьмі з вёскі: члены сельскагаспадарчых гурткоў, гурткоў вясковых гаспадынь, малачарскіх спулдзельняў, ГС-аў, члены Саюза вясковай моладзі.

Вялікае зацікаўленне дзейнасцю «Грамады» праяўлялі паветы: Бельскі, Гайнаўскі, Сакольскі — тут асабліва настаўнікі, у Беластоцкім павеце — Міхалова і Гарадок.

У дзейнасці Беластоцкай «Грамады» ўфармаваўся культурны напрамак.



«Грамада» тут пайшла за голасам нашых патрэб, задаволіла грамадскія вымогі. Ведаем, што Беластоцкае ваяводства было адсталым. У нейкай меры дзякуючы «Грамадзе» — людзі нашы адкрылі кусок свету, адчулі патрэбу культурных мерапрыемстваў, пабывалі ў розных тэатрах, у розных гістарычных мясцовасцях краіны. І можа дзякуючы якраз культурнаму характару ў дзейнасці Беластоцкай «Грамады» не мае яна цяжкасцей, каб прыцягнуць людзей.

Выраслі і людзі Беласточчыны, гледачы і ўдзельнікі грамадаўскіх выездаў. Дзесяць год назад найбольш папулярным быў цырк, зараз людзі ахвотна прыходзяць на оперу, ці на нялёгкі спектакль у тэатры. Супрацоўніцтва «Грамады» з Беластоцкім тэатрам, які вядзе вялікую папулярызатарскую работу, таксама спрыяе змене этычных поглядаў.

«Грамада» прывязла ў Беласток і на Беласточчыну (часам па некалькі разоў) такія калектывы як Слёнск, Мазоўша, тэатры — Нарадовы, Камедыя, Мазавецкай зямлі, Люблінскую аперэту, аб'язную оперу, калектыў Войска Польскага.

Вазіла людзей з Беласточчыны ў тэатры: Вялікі, Паўшэхны, Драматычны, Атэнэум у Варшаве, Вялікі — у Лодзі. Вазіла на выступленні заграчічных калектываў: англійскага балета на ільду, савецкага балета на ільду, дацкага і амерыканскага.

Ад 24 мая да канца месяца ў Беластоку будзе выступаць чарговы раз тэатр — Камедыя з Варшавы з п'есай Г. Запольскай «Жабуся» і з удзелам Багуміла Кабелі. (вл)

# ВЫНІКІ КАЛЕКТЫЎНАЙ ПРАЦЫ

Спулдзельчасць «Самапомачы хлопскай» праводзіць зараз справаздачна-выбарчую кампанію. З гэтай нагоды мы наведалі і пазнаёміліся з працай адной, з 4 існуючых у Гайнаўскім павеце, гміннай спулдзельні. Выбар паў на ГС у Гайнаўцы. З вынікамі працы гэтай жа ГС і хочам пазнаёміць чытачоў.

Сам выбар гайнаўскай ГС быў невыпадковы. У межах яе дзейнасці знаходзіцца тэрыторыя найбольш таварных вёсак і грамад, а адсюль і значэнне гэтай жа ГС.

Некалькі слоў аб гаспадарчых выніках спулдзельні. Большасць паказчыкаў сведчыць аб тым, што накрэсленыя заданні перавышана. Планаваны прыбытак за 1968 т. з рознічнага продажу выканана ў 110,1%, а таваараабарот скупкі выканана ў 116,9%, выпрацоўваючы прыбытак не 824 тыс. зл., як планавана, але 1090 тыс. зл., што дае 132,3%. Вельмі прыгожымі вынікамі працы і гаспадарчымі дасягненнямі можа пахваліцца мяшальня корму, якая існуе пры ГС. Сям-там чуюцца галасы гаспадароў, што нібы абавязвае тут за высокая цана за робленыя мяшальняй паслугі, пярэчыць і тое, што таваараабарот гайнаўская мяшальня выканала ў 134,8%, а прыбытак не 652 тыс. зл., як планавалася, але 1049 тыс. зл. (169,9%).

Ёсць аднак і балячкі. Найбольш клопату прыносіць арганізацыя паслуг для насельніцтва. Існуючая тут слёсарска-кавальская майстэрня ў 1968 г. прынесла аж на 76 тыс. зл. страт. Шмат на гэта складаецца прычын. Апрача таго, што гэта новая дзялянка працы спулдзельні і няма ў тым напрамку вопыту, трэба віну прыпісаць існуючым цэннікам і сістэме аплочвання працаўнікоў майстэрні. Напрыклад, ёсць у цэнніку цана за паслугу, якая з'яўляецца працахлоннай, меншая, чым за гэты час трэба заплаціць рабочаму. Апрача навелізацыі цэннікаў найбольш разумным было б увядзенне аплочвання працаўнікоў майстэрні сістэмай правізіі, а не ад гадзін працы, як гэта ёсць дагэтуль. У галіне паслуг вялі працу таксама шкляна-сталярная майстэрня, чышчальня збожжа і насення і пункт шыльдаў.

Каб завяршыць гаспадарчыя вынікі працы ГС у Гайнаўцы падамо, што агулам выпрацавана ў 1968 годзе прыбытак, лічба якога заключаецца ў 2563 тыс. зл. (за 1967 г. толькі 2148 тыс. зл.), што абазначае выкананне плана ў 128,2%. Гэтая надвыжка з'яўляецца прадметам падзелу, які зацвярджаюць дэлегаты на справаздачна-выбарчых сходах спулдзельні. Варта падаць да ведама, што на т.зв. дэвідэнды, гэта значыць прыпісваецца 20% да ўнесенага ўкладу кожнаму члену спулдзельні, за 1968 год прыпадае 126 тыс. зл. Гайнаўская ГС мае 3515 членаў, а іх уклады складаюць лічбу 630.237 зл. На культурна-асветную дзейнасць прызначана больш 103 тыс. зл.

Гаворачы аб культурна-асветнай дзейнасці ГС варта ўспомніць, што за справаздачны перыяд адкрыта клуб гаспадара ў **Койлах,** а незадоўга такі ж будзе адкрыты ў Карыцісках. Што праўда не адкрыта клубу ў **Дубінах** і **Навасадах,** якіх адкрыццё прадбачвалася ў прапановах з мінулага года, але тут ужо не віна ГС, але ГРН, якая не магла знайсці адпаведнага памяшкання.

Вельмі істотнай і пацяшаючай з'яўляецца актывізацыя членскіх камітэтаў, якія існуюць пры кожнай краме. Апошнім часам назіраецца сістэматычнасць у іх працы. Тут неабходна ўспомніць аб вельмі актыўнай дзейнасці, пры Гайнаўскай ГС, **Рады надзорчай,** старшынёй якой быў **Канстанцін Ляшчынскі,** а таксама іншых грамадскіх дзеячоў спулдзельчасці. Гэта іх адданасць і ахвярнасць у многім прычынілася да выдатных вынікаў працы спулдзельні.

У канцы нельга не сказаць некалькіх слоў аб працаўніках спулдзельні. Праўленне ГС у Гайнаўцы — людзі маладыя, прэзас **Мікалай Клімюк** заканчвае вышэйшую адукацыю, не наракаюць на недахоп энтузіязму ў працы віцэ-прэзасы **Уладзімір Кардаш і Аляксандр Плева,** падобныя словы трэба накіраваць у адрас кіраўніка фінансава-бухгалтарскай службы, галоўнага бухгалтара **Ольгі Ахрымюк.**

Агульна можна сказаць, што ў працы гайнаўскай ГС адчуваецца рытм калектыўнай працы. Іменна вынікі такой працы можна ўбачыць амаль у кожнай галіне дзейнасці.

**А. Лабановіч**

Пачатак на стар. 1

# ЯК НАМ ЖЫВЕЦЦА?

Разам тады на розныя пакупкі аддалі мы на Беласточчыне 14 мільярдаў 320 мільёнаў злотых. Гэта другі важны лік. Прыраўняўшы яго з нашым супольным даходам, сцвердзім, што **асталося нам яшчэ ў запасе 425 мільёнаў 500 тысяч злотых. Вось настолькі мы пабагацелі на працягу аднаго года!** З гэтай сумы жыхары Беластоцкага ваяводства 282 мільёны 400 тысяч злотых склалі на ашчадныя кніжкі ПКО, а рэшту прыхавалі недзе ў панчохах.

Добра было б памятаць аб гэтых ліках, калі сустрэнемся з суседам або са сваякамі і знаёмымі, каб панаракаць на сваё жыццё. А можа лепш было б падумаць аб вывадах, якія падказвае гэтая статыстыка?

**М. Нурэцкі**

## Наш Каляндар

# •МІКАЛАЙ ЧУРКІН•

**(КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА)**

22 мая спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння М. Чуркіна.

Мікалай Чуркін... Хто ў нашай рэспубліцы, як і за яе межамі, можа без захаплення слухаць дзівосна меладыйную, шчырую і маляўнічую музыку «Беларускіх малюнкаў» гэтага цудоўнага мастака! А пяшчотная літаральна хапаючая за душу «Калыханка» для струннага квартэта, а сурова праніклівая і лаканічная вакальная балада «Хто сказаў, што памёр Ленін», какетлівы вальс «Зялёны дубочак» і імклівая з запалам «Полька» для эстраднага аркестра, дзіцячая опера «Рукавічка» і музыкальныя камедыі «Кок-сагыз», «Песня Бярэзіны»... Колькі іх розных і яркіх твораў кампазітара Чуркіна, якія не будуць забыты ўдзячнымі патомкамі!



Кампазітар М. Чуркін

Аднак якая цяжкая была дарога ў Мастацтве Мікалая Чуркіна.

Сын беднага селяніна і сірата, М. Чуркін не меў магчымасці нават марыць аб музыцы. Выпадкова ім зацікавіліся лекары, знаходзячагася ў сяле ваеннага шпіталя. Яны ўладзілі таленавітага хлопчыка на вучобу ў ваенна-фельчарскую школу. На шчасце, у школе існаваў аматарскі духавы аркестр, і хлопчыку было дазволена ў ім іграць... на барабане.

Не заўважыць музыкальнай здольнасці Чуркіна было цяжка, і паступова з непрыкметнага вучня аркестра ён стаў яго кіраўніком, вядомым музыкантам-аматарам.

Выпадковая сустрэча з рускім кампазітарам М. І. Іпалітавым-Іванавым канчаткова вырашыла лёс маладога ваеннага фельчара Чуркіна. Ён паступае ў музыкальнае вучылішча Тыфліскага аддзялення рускага музычнага таварыства, у клас Іпалітава-Іванава.

У 1892 годзе Мікалай Чуркін стаў музыкантам-прафесіяналам. Бясконцыя пераезды з месца на месца ў пошуках працы не давалі яму магчымасці сістэматычна займацца кампазітарскай творчасцю. Але тое, што перашкаджала М. Чуркіну пісаць уласную музыку, памагло яму ўбачыць, вывучыць жыццё народа, даведацца аб яго імкненнях, марах, надзеях, асабліва глыбока выражаныя ў народных песнях. І музыкант



 

# ТОЕ-СЁЕ ПРА ВУСЫ

Вусы... Яны надавалі зухвалась і маладзецтва браваму гусару. У спалучэнні з важнымі бакамі і бакенбардамі ўзмацнялі салідную прадстаўнічасць царскіх саноўнікаў і дыпламатычных дзеячоў. Але, аказваецца, у дарэвалюцыйнай Расіі нашэнне вусоў было не такой ужо простай справай. У цараванне Аляксандра І у рускай арміі вусы мог насіць хто хацеў — ад салдата да генерала. Але пры Аракчэеве вусамі мелі права фарсіць толькі кавалерысты. У пяхоце і артылерыі вусы забараняліся.

Мікалай І выдаў загад насіць вусы ўсёй рускай арміі. Ваенныя ўзрадаваліся! Але... у герцага Аляксандра Віртэмбергскага, галоўнакамандуючага шляхамі зносін, невядома з якой прычыны замест пышных вусоў ледзь прабівалася рэдзенькая шчацінка. І яму ўдалося ў 1840 годзе дабіцца ў гасудара ўказа ўсяму корпусу шляхоў зносін вусоў не насіць.

Прайшло восем гадоў. Інжынер шляхоў зносін генерал Дэстрэм (калісьці выхадзец з Францыі) быў камандзіраваны за мяжу. З гэтага выпадку генерал даў поўную свабоду расліннасці на сваім твары і вярнуўся ў Расію з густой барадой і пышнымі вусамі. З барадою яму давялося расстацца, але што датычыць вусоў, то ўпарты вырашыў, што не паголіць іх ні за што на свеце. Уся справа была ў тым, што яны скрывалі яго загану: у генерала не было пярэдніх зубоў. Поўны рашучасці, ён звярнуўся да графа Клейнміхеля, просячы яго далажыць гасудару аб яго трагедыі. Цар быў крануты. Ён тут жа выдаў загад: «Государь Император Высочайше повелеть соизволил всем генералам, штаб- и оберофицерам Корпуса Инженеров путей сообщения и Строительного Отряда и нижним чинам всего корпуса носить усы».

Такім чынам адсутнасць пярэдніх зубоў у генерала Дэстрэма вярнула вусы транспартнікам.

## САМ

• Калі змяшаць фарбу для печы з воцатам, шкіпінарам або моцным чаем, пафарбаваная печ будзе больш бліскучай. Пячныя трубы можна і не мазаць фарбай. Вытрыце іх анучкай, змочанай у аліўкавым масле або ў адвары льнянога семя, і ў вас будуць бліскучыя трубы.

• Калі заднікі новых туфляў вам ціснуць, натрыце іх мылам.

• Плямы ад какавы або кавы трэба выводзіць цёплай і вельмі салёнай вадой, а затым прамыць вялікай колькасцю халоднай вады.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Егіпцяне ў Чылі?

Ці сапраўды перасяліліся ў Анды егіпцяне эпохі фараонаў? Над гэтай загадкай задумваюцца вучоныя ўсяго свету. Нядаўняе археалагічнае адкрыццё ў даліне Азапы ў Чылі, відаць, пацвярджае такое меркаванне. Археолагі знайшлі муміі дзяцей, а таксама каштоўны амулет, які вельмі нагадвае амулеты фараонаў. Знаходка выклікала жывы водгук сярод многіх спецыялістаў, якія імкнуцца абгрунтаваць свае гіпатэзы аб заакіянскіх міграцыях народаў старажытнасці.

## ТЭХНІКА

### Самаходны агрэгат

Добрую славу заваявала тэхніка, створаная калектывам мінскага спецыяльнага канструктарскага бюро «Меліярмаш». У гэтым годзе дарожнікі краіны атрымаюць іх навінку — універсальны размеркавальнік дарожна-будаўнічых матэрыялаў. Машына паспяхова прайшла дзяржаўныя выпрабаванні і рэкамендавана да серыйнай вытворчасці. Самаходны агрэгат на гусенічным ходзе мае некалькі зменных рабочых органаў. Гэта дазваляе выкарыстоўваць яго на ўкладцы цэментабетону, асфальту, шчэбеню і іншых матэрыялаў.

## КУЛІНАРЫЯ

• Дрожджы доўгі час захаваюцца ў свежым выглядзе, калі вы іх пакладзяце ў шклянку, а шклянку перакуліце на сподачак з вадой.

• Масла, тлушч і наогул тлушчавыя прадукты нельга трымаць у паліэтыленавым посудзе, бо яны набываюць непрыемны смак, пах і хутка псуюцца.

• Варэнне, салёныя і марынаваныя прадукты не трэба захоўваць у гліняным глазіраваным посудзе, бо гэта рызыкоўна. Няўдалая глазур лёгка перадае ў ежу свінец, які ў ёй утрымліваецца, атручваючы прадукты.




## ESPERANTO

Калі ў 1877 годзе выйшла ў свет кніжыца «Міжнародная мова», яе аўтар, Людвік Заменгоф з Беластока, не спадзяваўся, што так многа прыхільнікаў на цэлым свеце знойдзе апрацаваная ім мова. Прастата граматычных форм, трапная падборка слоў, несумненна з'явіліся прычынаю папулярнасці гэтай мовы, якая не проста «выдуманая», але ўтвораная на аснове своеасаблівага сінтэзу натуральных еўрапейскіх моваў, галоўным чынам раманскіх. Трэба ведаць, што яшчэ да Заменгофа, як і пасля яго, было многа розных спроб апрацавання міжнароднай мовы. Найбольш трапна вырашыў гэтае пытанне, менавіта, Заменгоф, які выступіў пад псеўданімам «Доктара Эсперанта» — адсюль і назва мовы, эсперанта.



Эсперанцкі хор пачатковай школы імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку.

Народжаны ў Беластоку эсперанцкі рух агарнуў увесь свет — на мове эсперанта выдаюцца кніжкі, часопісы, адбываюцца радыёперадачы і тэлевізійныя праграмы, пішуць урэшце свае творы шматлікія пісьменнікі. Эсперанта, як сродак міжнароднага паразумення, які не дае перавагі ніякай з нацыянальных моваў, карыстаецца зараз вялікім аўтарытэтам, знаходзячы афіцыяльнае прызнанне з боку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Значэнне эсперанта несумненна прагрэсіўнае, спрыяе абмежаванню касмапалітычна-імперыялістычных уплываў, гасіць нацыяналістычныя тэндэнцыі, якія асабліва часта выяўляюцца з боку вялікіх народаў Зямлі.

На Беласточчыне эсперанцкі рух набывае размаху. У светлыя дні беластоцкай вясны адбыўся ўпершыню арганізаваны ў Польшчы эсперанцкі культурны фестываль, у якім удзельнічала моладзь з усіх закуткаў краіны, а таксама замежныя госці. На думку ініцыятараў гэтага свята павінна адбывацца яно штогод і, менавіта, у Беластоку.

Наша зямля з'яўляецца айчынай міжнароднай мовы. Бадай, невыпадковае тое, што стваральнік эсперанта выйшаў з асяроддзя нашага грамадства, шматмоўнага ад вякоў, дзе побач сябе былі розныя мовы — польская, беларуская, яўрэйская, нямецкая, руская, часткова літоўская і ўкраінская. Нат' па сённяшні дзень беластачане ведаюць або прынамсі разумеюць дзве або тры мовы. Шматмоўнасць нарадзіла здаровыя схільнасці да ўзаемаразумення, пашаны ўзаемнай, і адначасова імкненне да раўнапраўнасці, якую відавочным чынам гарантуе міжнародная мова.

(ся)



Маладыя эсперантысты ў час занятка ў на курсе міжнароднай мовы ў Беластоку. Фота — А. Хомчык

**Дваццаць чатыры гады споўнілася 9 мая з дня заканчэння другой сусветнай вайны, але ў нашай памяці не сціраюцца вялікія подзвігі ў гістарычнай бітве з карычневай чумой. Сёння мы пачынаем расказ аб адной са складанейшых аперацый, праведзеных байцамі нябачнага фронту ў гады вайны.**




Берлінскае кабарэ «Савой», якое некалі ззяла люстэркавымі вітрынамі, цяпер з вокнамі, забітымі дошкамі, здавалася на зацемненай вуліцы забітым на доўгі час. Але так яно выглядала толькі знешне. Унутры ўсё было па-ранейшаму. Наведвальнікаў было многа.

Як звычайна, недалёка ад уваходу, ледзь прыхіліўшыся да сцяны, стаяў метрдатэль Вульф, гатовы кінуцца на першы кліч пастаянных наведвальнікаў.

Позірк яго ненадоўга затрымаўся на двух афіцэрах, якія ажыўлена гутарылі за адным са столікаў.

«Хто гэта такія? Я іх не бачыў тут раней», — падумаў Вульф, але тут жа яго ўвага была адцягнута: паклікалі да століка ў супрацьлеглым кутку.

Маёр Вальтэр Шульц і палкоўнік Ганс Мілер, афіцэры абвера, сапраўды ўпершыню наведалі гэта кабарэ. Шульц толькі што вярнуўся з камандзіроўкі ў Францыю і расказваў субяседніку аб уражаннях.

Яны былі даўнімі прыяцелямі, яшчэ з першых гадоў устанаўлення ў Германіі фашызму. Антыфашысты па пераконаннях абодва далучыліся тады да групы прагрэсіўна настроеных людзей, якія рабілі спробы стварыць антыфашысцкую арганізацыю. Зрабіць гэта ва ўмовах тэрору і масавага сачэння не ўдалося. Група развалілася. Цяпер трэба было скрываць свае пераконанні.

Шульц, які свабодна валодаў рускай і французскай мовамі, паступіў у гандлёвую фірму, якая мела справы з СССР і іншымі краінамі Еўропы, а Мілера — усходазнаўцу, які вывучаў ва ўніверсітэце персідскую і англійскую мовы, — забралі на службу ў абвер. Гэта работа была непрыемнай яму, ён доўга адмаўляўся, ды да таго ж яшчэ нехта з продкаў у яго быў яўрэем, і Мілер разумеў, што калі гэта адкрыецца, — ён будзе жорстка пакараны. Але ніякіх пярэчанняў не прынялі пад увагу.

Маючы незвычайныя здольнасці, Мілер у хуткім часе вылучыўся, быў камандзіраваны ў Іран.

Калі пачалася вайна, ён угаварыў і Шульца пайсці служыць у абвер, зрабіў яму пратэкцыю. Гэта выратоўвала ад адпраўкі на фронт.

У гэты вечар у кабарэ яны былі рады сустрэчы і захоплены гутаркай.

— Зусім забыўся табе сказаць, што з заўтрашняй раніцы пераходжу на казарменнае становішча, — заўважыў Мілер.

— Чаму?! — здзівіўся Шульц.

— Упраўленне імперскай бяспекі, здаецца, задумала буйнейшую авантуру. Днямі мяне выклікалі, распытвалі, якія надзейныя сувязі захаваліся ў Іране. З размовы я зразумеў, што ім трэба перакінуць і схаваць там сваіх людзей для ліквідацыі відных прадстаўнікоў ЗША, СССР і Англіі, якія павінны сустрэцца ў Тэгеране ў бліжэйшы час.

— Ты ім назваў патрэбных людзей?

— На жаль, вымушан быў гэта зрабіць. Я ўказаў на аднаго курдскага шэйха і на свайго агента, судэцкага немца, які акапаўся ў Тэгеране пад выглядам польскага эмігранта, па спецыяльнасці ён інжынер-будаўнік.

— Пры чым жа тут казарменнае становішча?

— Сёння мяне зноў запрасілі туды і папярэдзілі, што я ведаю аб вельмі сур'ёзнай аперацыі, якой цікавіцца сам фюрэр. Па яго ўказанню, у мэтах захавання строгай тайны, усе ўдзельнікі і арганізатары да заканчэння аперацыі пераходзяць з заўтрашняга дня на казарменнае становішча з поўнай ізаляцыяй ад знешняга свету.

— Зразумела, — задуменна сказаў Шульц, падносячы да вуснаў высокі кубак з півам.

*

Уніз па тэатральнаму праезду Масквы, па-майстэрску лавіруючы паміж ваеннымі грузавікамі, аўтобусамі, неслася вёрткая «эмка».

У машыне чэкіст, у форме палкоўніка, раз-пораз прыспешваў шафёра:

— Ці нельга хутчэй?!

Той, не адказваючы, ціснуў на акселератар.

На Манежнай плошчы аўтамабіль развярнуўся і спыніўся ля Крамлёўскіх варот.

Палкоўнік выскачыў з машыны, прад'явіў пропуск і прайшоў у Крэмль, да будынка Саўнаркома.

У вестыбюлі ён папрасіў дзяжурнага выклікаць з нарады генерала Шлемава. Праз некалькі мінут выйшаў высокі, худы, крыху сутулы генерал. Ён быў устрывожан, паколькі ведаў, што памочнік палкоўнік Гардзееў не выклікаў бы яго з-за дробязі з вельмі сур'ёзнай нарады.

# ТРЫБУНА чытачоў

## НОВАЯ СТАЛОВАЯ

У мястэчку Нарва, якое ляжыць на турыстычным шляху Беласток—Белавежа, даўжэйшы час не было прыгожай сталовай. А вядома, што праз Нарву асабліва летам штодзённа праязджае многа турыстаў. І тут часта бывала, што маленькая сталовая не магла змясціць сваіх кліентаў. Праўленне ГС, якое ўзначальвае Аляксандр Пякарскі, прыняло меры, каб пабудаваць новую прыгожую сталовую.

Калі ўваходзім у калідор, тут адразу чалавек раздзяваецца і чуецца, як у сябе ў хаце. Шатняр Рыгор Саўчук ветліва адносіцца да ўсіх прыбыўшых у сталовую.

Новую сталовую адкрылі ў сакавіку. І вось прышлося мне там пабываць.

Калі я распрануўся і зайшоў усярэдзіну, то проста вачам не веру. Стаяць прыгожыя столікі і каля іх мягкія крэслы. Калі я сеў за столік, то зараз падыйшла да мяне афіцыянтка і ветліва запытала, што хочаце. Я паглядзеў, як афіцыянтка Яўгенія Янюк ветліва і хутка абслугоўвае сваіх кліентаў. За буфетам якраз стаяла Валя Кур'яновіч, таксама да ўсіх кліентаў адносілася ветліва і хутка іх абслугоўвала. Тут варта падкрэсліць наогул, што ў нараўскай гасподзе абслуга заслугоўвае на вялікую пахвалу.

«Ярош»
Гайнаўскі павет

## СВЯТЛІЦА ПАД ЗАМКОМ

Хачу я быць вашым сталым карэспандэнтам і пісаць вам усе навіны з нашай вёскі. Я жыву ў вёсцы Градалі, Бельскага павета. Вёска гэта лічыць каля дзевяноста гаспадароў. Да 1966 года была ў нас клуб-кавярня. Што здарылася, ніхто не ведае. Закрылі гэты клуб і цяпер моладзь не мае нават дзе зайсці пагаварыць. А ў нас існуе гурток Саюза вясковай моладзі. І збіраемся мы па хатах, найбольш у Іркі Кадлубоўскай, за што ёй належыцца вялікая падзяка. На дзвярах святліцы вісіць вялікі замок, а ключ у скляповага Якубюка. Каб зрабіць забаву, трэба паставіць яму паўлітра і ён дазволіць крыху патанцаваць. Дарагая рэдакцыя, выдрукуй гэтае пісьмо, можа калі дойдзе да скутку, і павятовыя ўлады з Бельска зацікавяцца гэтай справай і зноў зробяць нам месца да культуральнага адпачынку.

**Віхура**
Градалі

## КАБ ЛЕПШ РАДЗІЛА ЗЯМЛЯ

У гэтым годзе вапнаванне глебы ў Гайнаўскім павеце праведзена ў вёсках Арэшкаўскай ГРН: Арэшкаве, Пасечніках, Вітаве і Істоку. План аднаўлення бульбы гэты ГРН выканаў у 145 працэнтах. Нявыкананы тут план кішонак, бо на запланаваных 500 тон рэалізавана 42 тоны. Добра тут працуе водная суполка. Кепска маецца з выкупам збожжа па кантрактацыі. План рэалізавана ў 56,9 працэнтах. (ЯЦ)

## «АННА КАРЭНІНА»

24 красавіка г.г. вучні беларускага ліцэя ў Гайнаўцы былі ў Доме культуры «Ляснік». Там высветлены быў фільм «Анна Карэніна».

Моладзь ліцэя з вялікай увагай і цікавасцю аглядала фільм. Усім вельмі спадабаліся героі фільма: Анна Карэніна і Вронскі. Яго моладзь ацаніла таксама як сапраўднага героя.

З вельмі вялікай узрушанасцю выйшлі з фільма вучні і настаўнікі.

Люба Ярашэвіч, беларускі ліцэй у Гайнаўцы

## ПЕРШАМАЙСКІЯ АКАДЭМІІ

30-га красавіка мясцовыя ўлады і арганізацыі ў Семяноўцы супольна з Гайнаўскім аддзелам БГКТ арганізавалі Першамайскую акадэмію. Уступным словам адкрыў яе сакратар грамадскага камітэта ПАРП Рыгор Аніськевіч. Вельмі цікавы і змястоўны даклад з нагоды тэтай гадавіны прачытаў сакратар ГРН і адначасова сакратар гуртка БГКТ у Семяноўцы Юрка Кіслы. У акадэміі ўзялі таксама ўдзел журналісты «Нівы» Міхась Хмялеўскі і Аляксей Карпюк. Пасля быў высветлены кінаперасоўкай ГП БГКТ савецкі фільм. Прысутных на акадэміі было каля 200 асоб. Падобныя акадэміі адбыліся ў Чыжах, Ляўкове і Арэшкаве.

**Віктар Бура**
Гайнаўка

## НАСТАЎНІКІ З БЕЛЬШЧЫНЫ

Цікавая праграма адзначэння 25-цігоддзя Народнай Польшчы ў настаўнікаў Бельшчыны. Усе яны сваёй актыўнейшай працай у настаўніцкіх «Агнісках», удасканальваннем метадаў навучання, спатканнямі з палітычнымі дзеячамі і прадстаўнікамі навукі, адзначаць слаўны юбілей. «Агніска», якое выкажа найбольшую актыўнасць, возьме ўдзел у двухтыднёвай экскурсіі па Люблiншчыне на «Шляху Ліпеньскага маніфеста».

У кожнай школе будуць праведзены ўрачыстасці, на якіх будзе шырока гаварыцца аб дасягненнях народнай улады ў Польшчы. У школах ужо арганізаваны з вучняў спецыяльныя групы, якія пры дапамозе настаўнікаў дапамагаюць слабейшым вучням у вучобе пад лозунгам «Кожны вучань пяройдзе ў наступны клас».

Настаўнікі Бельшчыны арганізавалі шэраг «адчытовых» пунктаў, цесна супрацоўнічаюць з ЗМВ, ЛьЗС, гурткамі вясковых гаспадынь. У гэтым годзе мінае 50 год з дня заснавання Саюза польскіх настаўнікаў. З гэтай нагоды гістарычная камісія пры Павятовым праўленні ЗНП намагаецца выдаць абшырную публікацыю аб працы і дзейнасці ЗНП на Бельшчыне.

**В. Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## МАГІЛА БАЙЦА

Члены ЗБоВіД з Трасцянскага гуртка, якія жывуць у вёсцы Белкі, Гайнаўскага павета, 22-га красавіка ўладзілі і абгарадзілі магілу загінуўшага байца Чырвонай Арміі ў змаганні з гітлераўскімі захопнікамі.

Найбольш працавалі Мікола Семянюк і Іван Нікіфарук.

25 чэрвеня 1941 года двух байцоў Чырвонай Арміі прабіраліся на ўсход каля вёскі Белкі і напароліся на нямецкі абоз. Адзін баец быў моцна паранены ў грудзі і далей не мог уцякаць. Ён каля нашай вёскі разуў левую нагу, зарадзіў сваю вінтоўку, накіраваў яе сабе ў галаву, націснуў спуск і так пакончыў сваё маладое жыццё, а другі баец, праўдападобна яго стрыечны брат, трапіў у палон і яго немцы адвезлі ў тыл.

Пры забітым воіне не было аніякіх дакументаў. Жыхары вёскі Белкі пахавалі байца на ўзгорку ў невялікім ляску.

Ужо мінула 24 гады ад заканчэння другой сусветнай вайны, а можа бацькі ці дзеці шукаюць свайго сына ці бацьку і ніяк не могуць знайсці яго месца спачынку.

Вышэй успомненай магілай будуць апекавацца школьнікі з мясцовай школы са сваёй настаўніцай Нінай Сахарчук.

**М. Лук'янюк**
Белкі

## ПАЛЯНОЎСКІ І НІКАЛАЮК



**Уладзімір Паляноўскі і Сцяпан Нікалаюк у час кансервацыі сваёй машыны ў пераплётнай майстэрні.**

Уладзімір Паляноўскі з Пасынак і Сцяпан Нікалаюк з Райска ў час нямецкай акупацыі былі вывезены на прымусовыя работы. Калі Савецкая Армія іх вызваліла, яны ўступаюць у яе рады. Былі цяжка раненыя пад Пілаваю і Кенігсбергам. Вярнуўшыся пасля вайны дамоў працавалі на гаспадарцы. У 1951 годзе, калі ў Бельску арганізавалася інвалідская спулдзельня працы, яны першымі прыступаюць на працу ў пераплётную майстэрню. І Уладзімір Паляноўскі і Сцяпан Нікалаюк з'яўляюцца актыўнымі членамі Бельскага аддзела БГКТ. Уладзімір Паляноўскі з'яўляецца таксама членам Бельскага харавога калектыву.

**Тэкст і фота Павел Зінкевіч**
**Бельск Падляшскі**

## ВУЧАЦЦА ФАТАГРАФАВАЦЬ

Ад трох гадоў існуе пры трасцянскай школе фатаграфічны гурток. У гэтым годзе налічвае ён 17 асоб. Кіруе ім настаўнік Андрэй Барысюк. У школе ёсць павелічальнік для здымкаў «Крокус» і некалькі фотаапаратаў, як Кодак, Старт і Васход.

Рэшту фатаграфічных апаратаў маюць школьнікі. На заняткі прыходзяць раз або два ў тыдні. Здымкі робяць пры дзённым святле і з дапамогай лямпы ўспышкі ў памяшканнях. У вольны час фотааматары робяць насценныя фотагазеткі. Апошнім часам падрыхтавалі яны фотагазетку пад загалоўкам «З жыцця школы». Шмат здымкаў перахоўваюць у сваіх фотаальбомах.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

---

— Што здарылася, Мікалай Кузміч? — спытаў генерал і, паказаўшы ў кут, дзе стаялі два крэслы, сказаў: — Пойдзем туды.

— Атрыманы даныя, што немцы рыхтуюць замах на вялікую тройку ў час Тэгеранскай канферэнцыі, — далажыў палкоўнік і з палёгкай уздыхнуў, быццам скінуў з сябе цяжар.

— Адкуль атрыманы звесткі?

— З Берліна, ад сябра, які вельмі рэдка піша, — сказаў Гардзееў, перадаючы генералу расшыфраванае данясенне.

Прачытаўшы яго, Шлемаў задумаўся:

— Вы не захапілі дасье на сябра?

Гардзееў дастаў з партфеля папку.

Перагартаўшы справу, Шлемаў доўга глядзеў на фатаграфію Вальтэра Шульца. Можна было падумаць, што ён хацеў па рысах яго дабрадушнага твару вызначыць, на колькі можна верыць гэтаму чалавеку.

— Памятаеце, кантракт з ім пачаўся па яго ініцыятыве, яшчэ да вайны, калі ён прыязджаў сюды з прадстаўнікамі нямецкіх фірм, — зазначыў палкоўнік. Але думкі Шлемава былі заняты іншым: ён перабіраў у памяці ўсе магчымасці для праверкі атрыманых звестак і зусім не бачыў ні фатакарткі Шульца, ні старонак дасье.

— Што мы рабілі б цяпер, калі наш урад згадзіўся б на сустрэчу Вялікай тройкі пад Каірам, у нейкім адасобленым палацы, ці дзе-небудзь па суседству з Багдадам, як прапанаваў прэзідэнт Рузвельт. Мы аказаліся б бездапаможнымі, нібы маленькія вылупіўшыя галчаняты.

— А чаму прэзідэнт прапанаваў іншыя месцы?

— Пасля таго, як у канцы 1942 года ўзнікла пытанне аб сустрэчы Вялікай тройкі, Іран як месца сустрэчы быў назван у пісьме кіраўніка нашага ўрада прэзідэнту Рузвельту 8 верасня 1943 года. Рузвельт доўга не згаджаўся, спасылаючыся на тое, што ў раёне Тэгерана часта бывае нялётнае надвор'е і яму цяжка будзе звязвацца з кангрэсам, паколькі радыё і тэлеграф для гэтага не падыходзяць. Толькі праз два месяцы, 8 лістапада, Рузвельт даў згоду на сустрэчу ў Тэгеране і прапанаваў прызначыць канферэнцыю на апошнія дні лістапада 1943 года. Наш і англійскі ўрад не пярэчылі супраць гэтага. Дамовіліся трымаць усё ў строгай тайне. Тэгеран цяпер называюць у перапісцы: «Каір-Тры», а сустрэчу «Эўрыкай».

— Адкуль усё ж да немцаў прайшлі звесткі аб сустрэчы? — спытаў Гардзееў.

— Наўрад ці Шульц мае магчымасць што-небудзь высветліць. Ды і Мілера не інфармуюць аб гэтым у ведамстве Гімлера, — сказаў устаючы Шлемаў.

— Вам і мне прыйдзецца, бадай, выехаць у Іран, хутка ўстанавіць нямецкага агента ў Тэгеране і курдскага шэйха. А пакуль — трэба далажыць на нарадзе аб атрыманых звестках.

**(Працяг за тыдзень.)**



# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Drugi człowiek” (polski), 20 — 21. „Sublokator” (polski), 22 — 23. „Miasto nieujarzmione” (polski), 24—25.

**Дубіны**

„Wspaniałe wakacje” (rumuński), „Zosia” (polski), 24—25.

**Нараўка**

„Prywatna burza” (czeski), „Rozwód z miłości” (węgierski, 21—25.

**Нарва**

„Berlin” (radz.), „Romanca na trąbkę” (czeski), 21—25.

**Чыжы**

„Rondo” (jugosł.), „Trzy topole” (radz.), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ubranie prawie nowe” (polski), „Wehikuł czasu” (USA), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Panowie z kompleksami” (włoski), „Paryż — Warszawa bez wizy” (polski), 21—25.

**Орля**

„Hrabina Cosel” (polski), „Otello z prowincji” (węgierski), 21—25.

**Райск**

„Jak się pozbyć Helenki” (czeski), „Miałem 19 lat” (NRD), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Trzy kroki po ziemi” (polski), „Zakochana wiedźma” (włoski), 21—23.

**Міхалова**

„Przeciwko Bogom” (polski), 20—21. „Mam swój dom” (polski), 22—23. „Słońce obcego nieba” (jugosł.), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Historia współczesna” (polski), 20—21. „Cierpkie wino” (radz.), 22—23. „Wilcze echa” (polski), 24—25.

**Шудзялава**

„Krew na śniegu” (jugosł.), „W martwej pętli” (radz.), 21—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kierunek Berlin” (polski), „Gdzie jest trzeci król” (polski), 21—25.

**Новы Двор**

„Film z czarującą dziewczyną” (rumuń.), „Skrytobójcy” (NRD), 24—25.

**Ліпск**

„Ostatni po Bogu” (polski), „Piąty jeździec Apokalipsy” (czeski), 24—25.


Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7107

